Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 2 (15). Вільня, Субота, 9-га студзеня 1926 г. Год II.

## Банкруцтва парлямантарызму.

Нам, былым грамадзянам Расейскае дзяржазы, добра памятны тыя часы, калі ўлада маскоўскіх цароў была нічым неабмяжованая, і ўсе грамадзка-сьвядомыя элемэнты лятуцелі аб канстытуцыі і парляманцкім рэжыме, бачучы ў апошнім найвышэйшы ідэал дзяржаўнага ладу.

У гэтым перакананьні ўзгадоўваліся цэлыя пакаленьні ня толькі ў нас, але і на Захадзе—там, дзе якраз у тыя часы парлямантарызм дайшоў быў поўнага свайго расцьвету.

Аднак... аднак у той мамэнт, калі ў Расеі стварылася магчымасьць завясьці рэспубліканскі парляманцкі лад, кастрычнікавая рэвалюцыя пераступіла цераз парлямантарызм і вытварыла зусім *новую форму ўлады*. — У цэлым радзе парляманцкіх гаспадарстваў — Італіі, Гішпаніі, а цяпер і Грэцыі—уладу захопліваюць сільныя адзінкі і парляманцкі лад замяняюць на сваю асабістую *дыктатуру*. — А ў радзе рэспублік—Францыі, Нямеччыне, Польшчы, Вэнгрыі—бачым вельмі сільны рух да замены парляманцка-рэспубліканскага ладу—*манархіяй*.

Што, прыкладам, у Польшчы, дзе ўладу трымаюць у сваіх руках абшарніцкія інтэлігенты, пафарбаваныя ў чорны ці ў чырвоны колер, істнуе сярод зямельнае буржуазіі імкненьне разагнаць запраўды-ж непатрэбны, бо безгалосы і пакорны пануючым клясам Сойм,— што польскія магнаты хочуць пасадзіць на мужыцкім карку караля і пад яго „высокай рукой“ самым прымасьціцца, — дык у гэтым няма нічога дзіўнага. Таксама няма нічога дзіўнага і ў падобных рухах заграніцай, ды ў захапленьні ўлады Мусолінім, Рывэрай, ці цяпер Пангалёсам. Больш дзіўна тое, што *маса не бароніць свайго парляманту*, што ўсе гэтыя перавароты адбываюцца пры поўнай інэртнасьці масы, а ў ССРР якраз у мамэнт перамогі працоўных *сама-ж маса адступілася ад парлямантарызму і парляманцкага ўраду*, пайшоўшы за новым ладам — „радавым“, ці „савецкім“.

У чым-жа тут справа?

Прычыны гэтых зьявішчаў трэба шукаць у тым, што парлямантарызм у вядомых нам формах *далёка адыйшоў ад народных масаў*. Сувязь масы з парлямантам выяўляецца звычайна ў тым, што раз на пяць гадоў кожын грамадзянін кіне картачку з нумарам за той ці іншы сьпісак у часе выбараў у сойм і пасьля—у працягу пяцёх гадоў!—ня мае ўжо ніякага ўплыву на сваіх выбранцаў. Але мала гэтага: бо-ж самыя выбары ў значнай меры сталіся нейкай *недастойнай таргоўляй*—купляй-прадажай галасоў, і пасольскія мандаты звычайна здабываюць найбагацейшыя грашмі партыі,—ведама-ж, партыі, якія бароняць інтарэсы заможных клясаў і дастаюць ад гэтых клясаў вялізарныя сумы на сваю працу. Гэтак у заходніх „дэмакратычных“ рэспубліках буржуазіі ўдалося яшчэ мацней узсесьці на карк працоўным, чым яна сядзела за часоў манархіі, і працоўныя апынуліся ў палажэньні, з ягога ня бачаць ніякага выхаду.

Можна зусім шчыра сказаць: *парлямантарызм*, як колішні ідэал дзяржаўнага ладу, за які праліваді сваю кроў працоўныя, *ашукаў сваіх барацьбітаў*. Працоўныя, здабываючы парляманцкі лад, як-быццам выцягалі з гарачых вугальляў бульбу для радзімае буржуазіі: сабе рукі папалілі, а бульбу зьелі — буржуі....

У тым, што масы перасталі цаніць парлямантарызм, перасталі змагацца нават за яго захаваньне там, дзе некалі сваей крывёй заваёўвалі яго,—якраз і выяўляецца *банкруцтва парляманцкае ідэі*. Парлямант, як *пасрэднік* паміж народнымі масамі і фактычнай дзяржаўнай уладай, не здаволівае працоўных: яны хочуць стварыць такі лад, пры якім *воля народу*, *воля працоўных масаў будзе ўсьцяж і беспасрэдна кіраваць органамі ўлады*.

Там, дзе народ яшчэ вельмі цёмны, дзе ён сацыяльна і палітычна несьвядомы, дзе дае послух „слугам божым на зямлі“, якія запраўды заўсёды служаць не багам нябесным, а багам зямным—золату, мамоне, — там нездавольства далёкім і чужым парлямантам вельмі лёгка выкарыстываецца дзеля „памазаньнікаў божых“, там і адбываюцца з такой лёгкасьцяй манархічныя перавароты. Ня трудна прадбачыць, што гэткі пераварот лёгка можа адбыцца і ў Польшчы—краю панаваньня клерыкалізму і цемры.—Наадварот: там, дзе працоўныя масы ўжо дарасьлі да таго, каб абхадзіцца без пасрэднікаў і „памазаньнікаў“, там нездавольства парлямантарызмам ператвараецца ў шуканьне новае формы дзяржаўнага ладу,— тэй формы, якую стварыла кастрычнікавая рэвалюцыя ў ССРР. „Радавы“ ці „савецкі“ рэжым якраз і дае магчымасьць *беспасрэднага выяўленьня самадзейнасьці масаў*—у цэлай сыстэме сельскіх, районных, акруговых, мястовых і іншых радаў, пэрыадычныя зьезды якіх прадстаўляюць найвышэйшую ўладу ў гаспадарстве.

Вось, у сучасны мамэнт мы ў-ва ўсей Эўропе, а сьледам за ёй і ў другіх часьцінах нашае зямное кулі,—бачым змаганьне двух прынцыпаў дзяржаўнага будаўніцтва: на руінах збанкрутаваўшага парлямантарызму змагаюцца між сабою прынцып *манархічнае* ўлады, як улады *„вышэйшых“* кругоў грамадзянства, і прынцып улады *радавай, ці савецкай*, як рэзка процілежнае імкненьне да ўлады народных *„нізоў“*.

Мы не сумляваемся, што раней ці пазьней—апошні пераможа.

## Помста за выбары.

Памятаем мы ўсе добра, як пасьля выбараў па ўсей Заходняй Беларусі паліцыя паграажала добра „разьлічыцца“ за „шаснастку“ з сялянамі. Памятаем мы добра, як некаторыя з паноў паліцыянтаў шчыра прагаварыліся, што атрымалі „акульнік“ — каб сьпісываць усіх, хто агітаваў і навет галасаваў (!) за сьпісак Блёку.

І мы бачым, што не дарма сыпаліся гэтыя страхі і пагрозы. Бо-ж дагэтуль яшчэ ня скончыліся пачаўшыяся тады-ж аблавы, арышты, катаваньні, працэсы і т. д., якія трываюць,—вось ужо трэці год.

Сколькі праўды было ў гэтых абвінавачаньнях, а сколькі правакацыі і агіды, найлепш даводзіць адбыты ў Горадні 15—16 сьнежня працэс 10 беларусаў, з з Мікалаем Переволоцкім (кіраўніком сэкратарыяту Беларуск. Пасольскага Клюбу ў Косаўшчыне) на чале. Справаздача аб гэтым працэсе ад нашага карэспандэнта была надрукавана ў папярэднім нумары. Усе абвінавачыляліся па арт. 102 („паўстаньне“, „адарваньне“ Заходняй Беларусі ад Польшчы і г. д.). Прасядзелі ўсе яны ў вастрозе каля паўтара году. І вось, суд змушаны быў апраўдаць усіх, засудзіўшы на 1 год крэпасьці толькі аднаго з іх—Дзямідовіча. Бо, як сьцьвярджае, „Сялянская Ніва“, на судзе высьветлілася, што „ўся справа была чыстай вады правакацыяй косаўскай паліцыі“.

Ня было-б гэта ў нас, у Заходняй Беларусі, каб пры гэтым выпадку ўсіх арыштаваных дый паліцыя крэпка не пабіла.

Схапілі, пабілі, пасадзілі, трымалі 16 месяцаў, судзілі апраўдалі і выпусьцілі — 10 маладых хлапцоў-работнікаў, карміцеляў сваіх сямей.

Што-ж—дзякаваць і за тое, што хоць выпусьцілі.

## Англія, ССРР і узнаўленьне Антанты.

Ад самага ўпадку работніцкага ўраду Мак-Дональда, які зрабіў рашучую, але няўдалую спробу паразумецца з радавым урадам, узнавілася і йдзе ўсё завастраючыся—рашучая барацьба між буржуазнай Англіяй і сялянска-работніцкім ССРР.

Уся сіла Англіі — у яе капітале, у падтрыманьні апошняга яшчэ больш магутным капіталам Амэрыкі і—у дапамозе ўсей тэй своры розных „вялікіх“ і невялікіх, захопленых буржуазнымі ўрадамі эўрапэйскіх дзяржаў, якія амаль ня ўсе крэпка ўблуталіся ў павучэньні сусьветнага англа-саксонскага капіталу, запрадаўшы апошняму свае працоўныя масы.

Уся сіла ССРР—у тых жывых сілах гэтых працоўных масаў усяго сьвету, якія перад усім імкнуцца да вызваленьня з ланцугоў і путаў сусьветнага капіталізму.

І вось, на нашых вачох ідзе, усё завастраючыся, гэтая рашуча-драматычная барацьба. Пакуль у Азіі — на Дальнім і Блізкім Усходзе—насьпявае, відаць, ужо нямінучы аружны канфлікт між гэтымі сьмяротнымі ворагамі, у Эўропе ідзе—на ўсялякі выпадак — дыпляматычная падрыхтоўка і падлічэньне сілаў да гэтага рашучага акту.

Няма чаго таіцца—апошняя падарожа Чычэрына, ня гледзячы на яго дыпляматычныя запярэчаньні, мела якраз гэтую мэту — агляд і падлічэньне сваіх і варожых сілаў у сучаснай Эўропе. Было, відаць, зроблена ўсё, што можна было зрабіць. У Парыжу было падпісана ваеннае паразуменьне з правадыром усяго магамэтанскага проціанглійскага ўсходу — ангорскім урадам Турцыі. Было, відаць, перад усім добра абмацана новае — пасьля-лёкарнскае становішча Нямеччыны. Былі агледжаны, зразумела, — як чорнаморскія таксама і балтыцкія новастворaныя вароты ў ССРР, на якія моцна пакладаецца Англія.



Не драмаў, зразумела, і галоўны дыплямат і правадыр буржуазнай Англіі — Чэмбэрлен. Пісалі газэты, што ён маніўся спаткацца асабіста з Чычэрыным, але да гэтага спатканьня не дайшло. Хто хацеў, а хто з іх не хацеў спатканьня, мы ня ведаем. Можа гэта — сымвалічная азнака прынцыповай непрымірымасьці буржуазіі і волі працоўных народаў?!

Замест спатканьня з Чычэрыным — Чэмбэрлен таксама пусьціўся ў падарожу па Эўропе — амаль не дакладна па сьледу Чычэрына. Найбольш занепакоіла Чэмбэрлена чутка аб магчымы паразуменьні ССРР і Турцыі з Італіяй. Ведама-ж, такое паразуменьне адразу-б касавала ўсю працу Англіі ў Лізе Народаў, каб затрымаць у сваіх руках захоплены ў Турцыі Мосуль. Бо—маючы забясьпечаныя абодвы свае фронты—усходня-паўночны і заходня-паўдзённы, Турцыя зусім ня спынілася-б перад тым, каб з аружжам у руках выгнаць англійцаў з Мосулю, не баючыся вайны з Англіяй. Дык вось, Чэмбэрлен, прыехаўшы ў Італію, і насеў моцна на Мусоліні, каб той забавязаўся — на выпадак англа-турэцкай вайны — рашуча стануць на бок Англіі. Ведама-ж, Мусоліні пачаў круціць, каб як найбольш выкарыстаць утварыўшаеся палажэньне для Італіі ды ўрваць нешта ад абедзьвюх старон. Але Італія залішне залежна ад англійскага вугальля і англійскага флёту, а для Англіі ўся ігра залішне важная, каб Чэмбэрлен мог і хацеў доўга таргавацца. Урэшце так-званы „дух Лёкарно“, ці папросту змова буржуазных жываедаў Эўропы проці працоўных, перамог, і ваенная ўмова Англіі з Італіяй была падпісана. Падпісана ў тым самым мястэчку Рапальлё, у якім у часе Гэнуэзкай канфэрэнцыі быў падпісаны знамяніты дагавор між ССРР і Нямеччынай — па думцы таго-ж Чычэрына.

Так пікантна змагаецца Чэмбэрлен з Чычэрыным на дыпляматычным полі ў Эўропе.

Паводле новай ваеннай умовы Італіі з Англіяй, Італія ў выпадку англа-турэцкай вайны заняла-б сваім флётам рад турэцкіх астравоў і акупавала-б рад прыморскіх местаў Турцыі. Гэткім чынам Турцыя апынулася-б ізноў у палажэньні і ў граніцах, якія прысудзіў ёй Вэрсальскі Трактат.

Англійскія газэты пішуць, што гэтая змова Англіі з Італіяй зроблена з ведама і згоды Францыі. Гэткім чынам — пад пагрозай вельмі небясьпечнай для Англіі вайны—ізноў як быццам уваскрашаецца разваліўшаяся ўжо было Антанта. Ясны знак, што над Эўропай запанавала ўжо палітычная гэгэмонія (каманда) Англіі.

Калі Францыя шчыра пайшла з Англіяй проці Турцыі, дык гэта мае тую добрую старану, што Турцыя, залішне давяраўшая Францыі, цяпер добра пераканаецца, чаго варта запраўды француская прыязьнь.

## Абшарніцкія лясы і адбудова сялянскіх гаспадарак.

Ня трэба лепшай прыкладовай навукі аб тым, што значыць буржуазна-абшарніцкія ўлада ў Польшчы, як справа так-званай „даніны ляснойˮ.

Што такое гэтая даніна, як яна спаганялася з абшарнікаў і на што выдавалася,—вось пытаньні, адказ на якія найляпей адкажа нам і на пастаўленае вышэй агульнае пытаньне.

Ведама, што, калі прадстаўнікі Польшчы на Парыжскай Канфэрэнцыі дамагаліся адданьня Польшчы Усходніх Зямель, дык яны кляліся, што толькі Польшча здолее — дый абязываецца да гэтага—адбудаваць гэтыя абшары, зьнішчаныя вайной. Дык паміж іншымі — пад гэтым варункам і адданы Польшчы гэтыя вялізарныя няпольскія краіны.

Далей, калі польскім абшарнікам, з помачай іх сацыялістычных і радыкальных сынкоў, удалося ў першым і другім Соймах уратаваць ад „зямельнай рэформыˮ перад усім свае лясы, дык абшарнікі тады бажыліся, што за гэта яны, у тэй ці іншай форме, ахвяруюць частку сваіх лясоў на адбудову краю. І вось Сойм выдаў закон аб так-званай „лясной данінеˮ—гатоўкай ці ляснымі матэр'ямі, якія цалком меліся ісьці на мэты адбудовы.

З некалькіх мільёнаў дзесянін абшарніцкага лесу ў Польшчы закон пастанавіў ўзяць штось каля 100 мільёнаў злотых. Гэта—кропля з мора абшарніцкага багацьця і—такая-ж кропля ў моры сялянскай бяды і руйны ў выніку вайны і акупацыяў...

Паглядзім-жа цяпер, як польскі ўрад і яго ўрадоўцы спаўняюць гэтыя выданыя Соймам законы.

Возьмем толькі два апошнія гады і праекты на 1926 г.

На 1924 і 1925 г. г. паводле законнай раскладкі павінна было быць спагнана з абшарнікаў па 20 мільёнаў злотых „лясной даніныˮ. Але ўжо напярод у бюджэце чамусьці „прэлімінаванаˮ толькі ўсяго па 15 мільёнаў, а фактычна спагнаны з „бедныхˮ абшарнікаў толькі каля паловы і гэтай няпоўнай сумы—штосьці па 8 з нечым мільёнаў,—разам за 2 гады—толькі 16 міл. 990 тысяч—замест 30, або 40 належных паводле закону. Каля паловы ўрад папросту **дараваў абшарнікам** — без усялякага законнага на гэта права...

Гэткім чынам абшарнікі, якія так стаяць за „сьвятую прыватную ўласнасьцьˮ, якраз гэтую прызнаную законам уласнасьць зруйнаванага вайной **сялянства** папросту **захавалі сабе** — пры дапамозе ўраду....

Але і на гэтым не канец беззаконьням абшарніцкае ўлады.

З гэтых спагнаных-такі 17 мільёнаў злотых урад выдаў на адбудову (ведама-ж, толькі ў сваей „запраўднайˮ Польшчы, а не на „крэсахˮ...) 12 мільёнаў. Рэшту—каля 5 мільёнаў... пусьціў на іншыя выдаткі свайго бюджэту. Найбольш абураючым зьяўляецца тое, што гэтыя 5 мільёнаў былі празначаны на дапамогу найбяднейшым ахвярам вайны!

Як-жа фактычна выканана разьдзяленьне тых 12 мільёнаў, назначаных у бюджэце—„на адбудовуˮ? Пэўна-ж, яны дык пайшлі ўжо на гэтую мэту, хаця і выключна польскаму сялянству?—Нічога падобнага!

Калі камісіі па адбудове, на падставе асыгнаваных у бюджэце крэдытаў, зацьвярдзілі пазычкаў зруйнаваным гаспадаркам якраз на суму 12 мільёнаў, дык тады ўрад выдаў з гэтых 12 мільёнаў толькі... 4 мільёны!

Што датычыць 1926 году, дык у бюджэце сума лясной даніны, якую трэба спагнаць з абшарнікаў, зьменшылася ўжо нават да 12 мільёнаў—без найменшай законнай падставы! — А з гэтай сумы, якая, паводле закону, **уся** павінна пайсьці на адбудову краю, на гэтую мэту назначана згары—ужо яўна і адкрыта—толькі 4 мільёны... Рэшта (лічым нават толькі 8 мільёнаў!), законна належная перад усім зруйнаванаму сялянству, а найбольш зруйнаваным і неадбудаваным дагэтуль беларускім і ўкраінскім абшарам, папросту—„пераносіццаˮ на—„іншыя патрэбы дзяржавыˮ!

Як бачым, гэта-ж ня толькі **ламаньне забавязаньня**, дадзенага ў Парыжу і Вэрсалі саюзьнікам, але і **ламаньне закону**, выданага Соймам. Гэта-ж—страшная крыўда таму сялянству, якога перад абліччам усяго сьвету Польшча прыракла — **адбудаваць і... ашчасьлівіць...**

1926 год — апошні, калі закон прадбачыць спагон лясной даніны. Асталося дабраць па закону яшчэ каля **50 мільёнаў**. Лясоў у польскіх абшарнікаў—на **мільярды злотых**. Цэны на лес абшарнікі ўзганяюць што год, то вышэй... Рабунковае нішчэньне лясоў, перад усім — на „няпэўныхˮ цяпер „крэсавыхˮ абшарах—ідзе катастрафічным тэмпам... А абшарніцка-пэпэсаўскі ўрад ня толькі ня зьбіраецца спагнаць з абшарнікаў належных законна польскаму, беларускаму і ўкраінскаму сялянству сумаў, але і тое, што мае спагнаць, яўна ўжо беззаконна выдае на „іншыя патрэбыˮ—можа якраз на паліцыянтаў, стражнікаў і асаднікаў, якія маюць „ашчасьлівіцьˮ гэтае сялянства!..

Добра відаць з усяго гэтага, што значыць для сялянства такі ўрад, які пануе цяпер у Польшчы...

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### „Сэкцыя для крэсавых справўˮ ізноў „працуеˮ.

5 студня адбылося першае паседжаньне ўваскрошанай да новага жыцьця тугуттаўскай „крэсавай сэкцыіˮ пры Радзе Міністраў. Сэкцыя засядала пад старшынствам самога прэм'ера Скшыньскага з учасьцем самога пэпэсаўскага міністра Морачэвскага.

Што-ж яна зрабіла?—Ведама-ж—зацьвярдзіла ўсе даклады і прапазіцыі міністраў: Рачкевіча (у справе „аб'яднаньня ўладаў на крэсахˮ), Радвана (у справе правядзеньня „зямельнай рэформыˮ) і Пеховскага (—у справе зьмены „некаторых карацельных правілаўˮ на тэрыторыі тых-жа многапакутных „крэсаўˮ)... Больш аб працы гэтай „сэкцыіˮ газэты не падаюць нічога...

Розьніца „новайˮ сэкцыі ад папярэдняй — толькі ў тым, што замест Тугутта польскую лявіцу прадстаўляе ў ёй—пэпэсавец Морачэвскі.

### Крызіс у Лодзі.

Як сьцверджана афіцыяльна, палова лодзкіх гандлёвых фірмаў ня выкупіла патэнтаў на новы год,—бо... збанкрутавала!

# Рада п. міністру Рачкевічу.

Надовячы п. Заморскі ў „Gaz. Por. Warsz.ˮ зьвярнўся да ўсіх, хто мог-бы даць добрую раду польскаму ўраду, як зьменшыць дзяржаўныя выдаткі,—каб свае рады і ўвагі друкавалі ў газэтах і ўсялікімі іншымі спосабамі падавалі да агульнага ведама. — Вось, і мне хочацца даць адну такую раду.

Нікому ня тайна, што ў нас на вёсках істнуе цэлая вялізарная армія **канфідэнтаў і агентаў палітычнае паліцыі**. Іх вярбуюць галоўным чынам спасярод урадоўцаў—школьных вучыцялёў, гмінных пісароў, паштавікоў і г. д. Усе гэтыя людзі, апрача асноўнае пэнсіі за сваю яўную службу, маюць яшчэ **другую пэнсію за тайную „працуˮ ў палітычнай паліцыі.**

Ведама, калі такі агент ці канфідэнт у працягу даўжэйшага часу не падасьць ніякіх „мэльдункаўˮ аб „антыпанствовай агітацыіˮ, дык яму перастаюць плаціць. Вось-жа, на гэтым груньце і паўстаюць **нялічаныя надужыцьці, фальшывыя даносы і правакацыі**, бо-ж кожны з такіх „шчырых патрыётаўˮ стараецца захаваць „пабочны даходˮ.

Як бачым, заведзеная ў нас сыстэма зьяўляецца падвойна шкоднай: бо церпіць на гэтым часта-густа бязьвіннае беларускае насяленьне, дый скарбу дорага абходзіцца!..

Дык я і раджу: няхай-бы п. міністар унутраных спраў загадаў палітычнай паліцыі **спыніць выплату другой пэнсіі тым яе ягентам і канфідэнтам, якія ўжо маюць пэнсію за яўную службу**. Хай яны бяз грошы выяўляюць свой „патрыятызмˮ!.. Тое-ж ня шкодзіла-б зрабіць і з дапамогамі з казны „полёнофільскайˮ партыі п. Павлюкевіча: тагды-б сталася яснай для ўсіх „ідэйнасьцьˮ гэнае кумпаніі....

Будзе лягчэй і скарбу, і насяленьню, і — суду, якому ня прыдзецца гэтак часта судзіць справы, абапёртыя на правакацыі...

**Г. Б—кі.**

### Хлеб вывозяць з краю.

Пакуль пэпэсы апрацоўваюць на сваім кангрэсе пекныя і „грозныяˮ для абшарнікаў рэзалюцыі, апошнія спакойна вывозяць — пры дапамозе ўсяго дзяржаўнага апарату коаліцыйнага ўраду—усё сваё збожа за-граніцу...

Пэпэсы грозна ставяць свае „варункіˮ, на якіх яны могуць астацца ў коаліцыі з эндэкамі, але эндэкі разам з абшарнікамі робяць сваё, ня слухаючы нават пэпэсаўскіх пагрозаў, — бо-ж ведаюць, што пэпэсам няма куды падзецца, што горш за ўсё баяцца яны тых працоўных, ад імя якіх так страшаць самі эндэкаў дый пястоўцаў...

Дык вось, бяссільныя зрабіць нешта рэальнае праз сваіх міністраў у эндэцкім урадзе, пэпэсаўцы прадаўжаюць крычаць у сваім папяровым „Работнікуˮ аб тым, што край рабуецца абшарніцкім вывазам збожа—пры дапамозе таго-ж самага ўраду, у якім „маюць такія магутныя ўплывыˮ самі паны пэпэсы...

„Так далей быць ня можа. Урад мае ўсе спосабы і магчымасьці — праўныя і выканаўчыя, каб зьмяніць пагражаючы краю парадакˮ.

Праўда. Але—так будзе, пакуль пэпэсы будуць далей падтрымліваць знутры і звонку гэты ўрад.—Бо-ж гэты ўрад яўна аддае „ўсе свае спосабы і магчымасьціˮ на службу ня краю, але—абшарнікам і капіталістам.

### Амэрыканскі фінансавы дарадца ў Варшаве.

Праф. Кемэрэр, запрошаны польскім урадам з Амэрыкі дзеля ўрэгуляваньня польскіх фінан-

# Літоўская мэтрыка.

Літоўскай мэтрыкай называўся архіў б. канцэлярыі вялікага князя беларускага і літоўскага. У ім захоўваліся акты або кнігі, у якіх знаходзіліся ўсе граматы і дакумэнты, напісаныя па ўстаноўленай у дзяржаўнай канцэлярыі форме.

Вызначаны архіў дзяліўся на мэтрыку вялікую, якая была даручана назіраньню канцлера, і мэтрыку меншую, якая была даручана назіраньню пад-канцлера. Абодвы гэтыя саноўнікі вызначылі беспасрэдна ад сябе залежных загадчыкаў архіву, пад назвай „мэтрыкантаўˮ.

Няхай чытач ня будзе зьдзіўлены, што на старонках газэты падымаецца пытаньне аб старасьвецкіх архіўных кнігах. Неабходна мець на ўвазе, што мэтрыка літоўская мае для нас надзвычайна вялікае значэньне і каштоўнасьць.

Перш за ўсё справа ў тым, што мы ня можам ня ведаць свайго мінулага, што мы павінны вывучыць яго. Мы—народ малады, ці, лепей кажучы, памаладзеўшая нацыя. Рэвалюцыя зьвярнула нам права на самавызначэньне, што зьяўляецца адным з найвялікшых рэвалюцыйных здабыцьцяў, якімі мае магчымасьць карыстацца былы прыгнечаны беларускі народ. Але мы павінны гэта права ўзмацніць.

Пашыраючы вывучэньне гісторыі Беларусі, мы яшчэ больш, яшчэ глыбей высьветлім для сябе гэта сваё права на самавызначэньне. У нашых руках будзе больш аргумэнтаў, каб даць адказ і нашым ворагам і няпрыхільнікам і адхіліць іхныя напады.

Літоўская мэтрыка — найбагацейшая крыніца гістарычных ведаў аб мінулым Беларусі. Крыніца гэта ўваскрашае перад намі багатую культуру старой Беларусі, яе прававыя падставы, яе сацыяльную і эканамічную структуру.

Тут гісторыя беларускага сялянства, тут гісторыя барацьбы мяшчан з шляхтай, тут гісторыя змаганьня беларускага народу за сваю свабоду і за сваю культуру.

Па сваёй структуры літоўская мэтрыка — надзвычайны помнік, асобны, калі не адзіны, у гістарычным мінулым усёй Эўропы.

Беларускія адміністратары старасьвецкіх часоў ня мелі таго зуду шматпісаньня, які прыкмячаецца, напр., у маскоўскі пэрыяд. У канцэлярыі вялікага князя Беларусі і Літвы пісаліся кароткія граматы, выразныя па зьместу. Нічога лішняга, ці бюрократычнага, непатрэбнага.

Наагул, у беларускай дзяржаве юрыдычная думка была высока разьвіта. Мова беларускіх юрыдычных актаў — строга азначаная і добра характарызуе кожнае юрыдычнае пытаньне. Гэткай якасьцяй мовы тлумачыцца і сьцісласьць выразаў актавага матар'ялу мэтрыкі.

Усё гэта—такія якасьці гісторыка-юрыдычнага матар'ялу, якія робяць яго са ўсіх бакоў матар'ялам выключным.

Мэтрыка літоўская складаецца з шэрагу кніг, у якія запісваліся поўнасьцю граматы ўраду, законадаўчыя пастановы, ухвалы сойму, скарбовыя справаздачы, дыплёматычныя лісты з замежнымі дзяржавамі (кнігі пасольскія) і г. д.

У цяперашні час літоўская мэтрыка знаходзіцца ў Маскве. Але з часам яна пяройдзе ў распараджэньне БССР. Мэтрыка, бязумоўна, вернецца да нас. Помнік былой самастойнасьці беларускага народу будзе захоўвацца ў нас.

Аднак, мала яшчэ таго, каб мець мэтрыку пры сабе, як сваю ўласнасьць. Каштоўныя помнікі не павінны ляжаць дарэмна і пакрывацца пылам у архівах.

Архіўны матар'ял вялізарнай гістарычнай і нацыянальнай каштоўнасьці павінен адслужыць сваю службу перад працоўным народам. Ён павінен быць даступным да вывучэньня самых шырокіх колаў грамадзянства.

А гэта магчыма зрабіць толькі праз выданьне ў друку актаў мэтрыкі літоўскай.

Цэнтральныя навуковыя ўстановы дарэвалюцыйнага часу мала цікавіліся выданьнем у друку помнікаў па гісторыі Беларусі, скупа вызначалі грашовыя сродкі дзеля гэтае мэты. Між тым, б. археаграфічная камісія, у якую ўваходзілі вельмі выдатныя вучоныя, ацаніла культурна-гістарычную каштоўнасьць мэтрыкі літоўскай і пачала яе друкаваць. Выпушчана ў сьвет усяго чатыры томы.

Гэты факт быў зьявішчам, ня вельмі прыемным для польскіх шавіністаў, бо зьмест мэтрыкі надзвычайна яскрава сьведчыць аб панаваньні беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай самастойнасьці і высьвятляе марнасьць польскіх перакананьняў аб шырокім, быццам, распаўсюджаньні ў нас на Беларусі польскае культуры са старадаўніх часоў.

Калі, гэткім чынам, б. усерасейская навуковая ўстанова ўхваліла выдаваць мэтрыку ў поўным складзе, то ў цяперашні час гэтай установы ня істнуе. Але гэта не азначае, што добра пастаўленая навукай мэта павінна быць забыта. Наадварот. Цяпер стварыўся шэраг умоў культурных і палітычных, якія моцна выклікаюць на чаргу пытаньне аб працягу выданьня ў друку мэтрыкі літоўскай. Толькі, дзякуючы сучасным умовам, гэтае высокае заданьне ўскладаецца на беларускіх вучоных. Але да іх належыць адно тэхнічнае выкананьне гэтае працы.

Выданьне ў друку мэтрыкі літоўскай, па нашай думцы, вялікая справа. Надрукаваная мэтрыка будзе сталым сьведкай нашага нацыянальна-культурнага разьвіцьця,—пачынаючы ад эпохі сярэдніх вякоў, будзе гучнамоўнікам нашай мінулай рэспублікайнскай дзяржаўнай самастойнасьці.

І вось пагэтаму, з нашага пункту погляду, было-б вельмі пажаданым, каб Саўнарком БССР узяў справу выданьня літоўскай мэтрыкі ў свае рукі і зацьвердзіў гэта сваім моцным аўтарытэтам.

Справа стане на моцныя ногі і пойдзе належным шляхам да выкананьня.

(„С. Б.ˮ). Праф. **М. Даўнар-Запольскі.**

саў, прыехаў у Варшаву і пачаў ужо знаёміцца з палажэньнем краёвай і ўрадавай гаспадаркі.

### Ізноў скандал у Вызваленьні!

3 студня на паседжаньні Галоўнай Управы партыі „Вызваленьне“ і „Едносьць Людова“ пастаноўлена выключыць з партыі самога былага старшыню яе, пасла Яна Домбскага... У матывах гэтай пастановы сказана, што п. Домбскі лічыць найвышэйшым аўтарытэтам аднаго толькі сябе, а ніякіх партыйных уладаў не прызнаваў; галасаваў, як хацеў, і рабіў, што хацеў...

Адначасна пастаноўлена аддаць пад партыйны суд яшчэ восем паслоў!

Дзіва, што гэтай „сялянскай“ партыі няма часу займацца сялянскімі справамі: час заняты заўсёды лаянкамі і бойкамі павадыроў...

### Суд над украінскімі сялянамі.

Уся ўкраінская прэса абураецца на прысуд суда прысяжных у Львове, які толькі што, разглядзеўшы справу 22 каламыйскіх сялян-украінцаў, засудзіў значную частку іх на вельмі цяжкія кары, а 2 з іх дык навет—на расстрэл.

Гэтыя сяляне абвінавачываліся ў імкненьні да адарваньня часткі дзяржаўнай тэрыторыі Польшчы і ўтварэньня з яе незалежнай і г. д...

Навет сам старшыня ў сваей апашняй прамове высьветліў прысяжным, што — з прычыны таго, што той павет (Пакуцьце), з якога паходзяць сяляне, ня можа быць ані адарваны, ані ператвораны ў „самастойную рэспубліку“, ані далучаны да якой іншай суседняй дзяржавы, бо ляжыць у глушы, у сярэдзіне краю і сам аддзелены ад усіх суседзяў шырокімі пасамі зямлі,—прысяжныя (з польскай і жыдоўскай буржуазіі) засудзілі двух сялян навет на сьмерць.

Відаць, і тут пачаў веяць той „дух Лёкарно“, які прывёз з-за граніцы п. Скшыньскі і ўмацаваў у „пакце“, з буржуазным „Жыдоўскім Колам“ у Сойме.

## Заграніцай.

### Новы Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі ССРР.

Нававыбраны на апошнім партыйным зьезьдзе Цэнтральны Камітэт Камуніст. Партыі ССРР выдзяліў з свайго складу Палітычнае Бюро, у якое ўвайшлі: Бухарын, Варашылаў, Зіноўеў, Калінін, Молатаў, Рыкаў, Сталін, Томскі і Троцкі. Галоўным рэдактарам партыйнай газэты „Правда“ выбраны Бухарын. Генэральным сэкрэтаром партыі—Сталін.

### Праект Літоўска-Латвійскай дзяржавы.

Літоўскі палітык Шлюпас апрацаваў праект аб‘яднаньня Літвы і Латвіі ў адзіную дзяржаву—з сталіцай у Рызе або... у Вільні!

Што да Вільні, дык можа-б было варта запытацца і беларусаў?!

### Падрыхтоўка манархічнага руху ў Нямеччыне.

Левыя газэты ўпорна пішуць аб рыхтаваным рознымі тайнымі арганізацыямі манархічным перавароце ў Нямеччыне. Гэтыя арганізацыі быццам стварылі ўласную фабрыку аружжа—пад кіраўніцтвам ведамага афіцэра генаральнага штабу. Дзяржаўныя ўлады, як кажуць газэты, добра ведаюць аб гэтых прыгатаваньнях, ды штосьці маўчаць. Газэты абяцуюць апублікаваць дакумэнты аб усім гэтым.

### Замена паліцыі „рэйхсвэрам“ у Усходняй Прусіі.

Нямецкі ўрад загадаў зьмяніць „рэйхсвэрам“ (запаснымі) паліцыю ў Усходняй Прусіі. Мясцовая паліцыя быццам патрэбна для былых акупаваных, а цяпер вызваленых тэрыторыяў на Захадзе. Але левыя газэты тлумачаць гэтую меру зусім інакш. Справа ў тым, што паліцыя ў Прусіі знаходзіцца пад уладай міністра Сэвэрынга, сацыял-дэмакрата, а рэйхсвэр — пад уплывамі магутных манархічных арганізацыяў.

### Арыстакрат фальшываманэтчык у Вэнгрыі.

Наскольні выраздзілася сучасная арыстакратыя, паказвае скандальны працэс князя Віндзішгрэца ў Вэнгрыі. Гэты прадстаўнік аднэй з найзнатнейшых вэнгерскіх магнацкіх сямей пасаджаны ў вастрог за тое, што арганізаваў шайку, якая займалася падрабляньнем 1.000-франкавых білетаў. Князь Віндзішгрэц—адзін з правадыроў вэнгерскага манархізму і нацыяналізму („Ліга аховы вэнгэрскай расы“).

На дапросе яснавяльможны фальшываманэтчык заявіў, што ён прызнаецца: ён фінансаваў „майстроўню“. Але ён рабіў гэта — „з патрыятычных матываў“. На запытаньне: што гэта за матывы?—адказу ня было.

Але адказ на гэтае пытаньне, дый вельмі цікавы, можа даць лёгка кожны сам сабе. Ведама-ж: вэнгерскія магнаты-абшарнікі, як і ўсюды, жадаюць павароту манархіі. Але, шкадуючы на гэтую „вялікую справу“ уласных грошаў (бо-ж амаль ня ўсе ўжо праедзены дый прапіты!), яны маніліся адбудаваць манархію за фальшывыя.

І гэта запраўды-ж вельмі сымвалічна і трафна кажа аб лёсе манархіі ў нашыя дні.

### Генаральская дыктатура ў Грэцыі.

Італьянска-гішпанскі фашызм заразіў і Грэцыю. Генарал Пангалёс аканчальна захапіў у свае рукі ўсю ўладу, разагнаў на неабмяжованы час парлямант, распусьціў урад, аб‘явіў няістнуючай канстытуцыю і—абвясьціў сваю асабістую дыктатуру. Новы „ўрад“, як заявіў „грэцкі Мусоліні“, будзе адказны перад... армій і флётам! Толькі тады Грэцыя заваюе першае мейсца ў усходняй часьці Сяродземнага мора.

На банкеце ў часьць новага дыктатара Грэцыі прадстаўнікі арміі заявілі, што трэба ратаваць край усімі мерамі — як ад ворагаў звонку, таксама і ад... парляманту і паслоў-палітыканаў знутра. Найцікаўней, што ў дэкрэце Пангалёса аб „прыпыненьні канстытуцыі“ з апошняе пакінены адзін толькі першы артыкул—аб тым, што „Грэцыя—Дэмакратыч. Рэспубліка“.

Уважны чытач можа спыніць увагу над славамі: „ратаваць Грэцыю ад вонкавай небясьпекі“. Што гэта значыць, — адкуль гэтая небясьпека, што пагражае Грэцыі? На гэта ясны адказ дае тое месца заявы Пангалёся, дзе ён кажа аб „першым месцы для Грэцыі ў усходняй часьці Сяродземнага мора“. Мы ведаем, што толькі-што „вольныя рукі“ ў гэтай часьці таго-ж мора абяцаў Чэмбэрлен — Італіі за дапамогу Англіі проці Турцыі. І вось, — таго ж Чэмбэрлена трэба шукаць і ўва ўсей ваенна-фашыстаўскай гарачцы, узгарэўшайся цяпер у Грэцыі. Як пойдуць здарэньні далей у гэтай „усходняй частцы Сяродземнага мора“, ня будзем гадаць, але што гэтае мора, падаграванае англійскімі качагарамі, можа хутка закіпець, гэта ж пэўна.

### Зьмена ўраду ў Баўгарыі.

Ненавісны для ўсей сялянскай Баўгарыі ўрад Цанкова нарэшце зрокся ўлады. Цанков як быццам утануў у цэлым моры пралітай ім правакацыйна крыві правадыроў і барацьбітаў сялянства.

Новы габінэт Ляпчэва, праўда, зложыўся з тэй-жа ўрадавай партыі, але ня мае таго выразна палітычна-карацельнага процісялянскага характару, які меў урад Цанкова. Ляпчэв — фінансіст, і яго ўрад мае больш тэхнічна-фаховы характар. Можа, нарэшце ўрад Баўгарыі будзе больш працаваць, як вешаць.

### Што каштавала Англіі ваенная ўмова з Італіяй.

Італьянскія палітычныя колы заяўляюць, што Італія вельмі многа скарыстала з англа-турэц. канфлікту. За абяцанку дапамагчы Англіі ў выпадку вайны з Турцыяй, Італія здабыла сабе вольныя рукі на Балканах, у ўсходняй часьці Сяродземнага мора (каля Турцыі). Але найважнейшай здабычай Мусоліні было абяцаньне Чэмбэрлена, што ён правядзе ў Лідзе Народаў забясьпечаньне паўночнай граніцы Італіі, як для Францыі зроблена Лёкарнскім Трактатам забясьпечаньне лініі Рэйну. Бо ж, ведама, граніца гэтая праведзена вэрсальскімі пераможцамі з вялікай крыўдай для жыхароў—немцаў, насяляючых адарваныя ад Аўстрыі краіны. Чэмбэрлен абяцаў Мусоліні быццам яшчэ значныя карысьці пры „падзеле каленіяў“ і ў галіне эканамічных стасункаў з Англіяй.

### Канфлікт за Мосуль.

Нядаўна англійскі міністар заявіў, што англійскі ўрад ахвотна пойдзе на пэўнае паразуменьне з Турцыяй у справе Мосулю—на падставе адбыўшайся ўжо пастановы Лігі Народаў. Ён заявіў, што гэткая прапазіцыя ўжо зроблена Турцыі, але дагэтуль англійскі ўрад адказу ад турэцкага ня мае. І вось, з Канстантынопалю пішуць, што турэцкі ўрад пастанавіў рашуча адмовіцца ад прапазіцыі Англіі аб вядзеньні пераговораў у справе Мосулю, на падставе рашэньня Лігі Народаў. Афіцыяльны адказ будзе пасланы ў тым тыдні.

### Замах на новага пэрсіцкага шаха.

З англійскіх крыніц паведамляюць, што ў Тэгэране зроблены бомбавы замах на жыцьцё ведамага дытатара Рыза-хана, абвясьціўшага сябе пэрсіцкім шахам пад імем Пагляві. У выніку выбуху бомбы шах страціў быццам абедзьве нагі.

### Самагубства б. шаха.

Цікава, што амаль ня ў той самы дзень „адстаўны“ шах Пэрсіі, які жыў ў адным з аўстрыйскіх курортаў, сам пазбавіў сябе жыцьця.

## ХРОНІКА.

**Безработныя ў Вільні.** Паводле афіцыяльных даных, лічба безработных у Вільні, зарэгістраваных у ўрадавым бюро працы, на дзень 2 студзеня дасягала ўжо 4.374 асобы.

Зарэгістраваных умысловых працаўнікоў, пазбаўленых працы, было 957.

Надовячы тартак Тышкевіча ў Вільні звольніў 17 работнікаў, а тартак у Нова-Вэрках — 142.

Усё замірае,—толькі адна галіна вытворчасьці працьвітае: польскія **гарэлачныя заводы** ў Вільні прынялі новых 20 работнікаў...

Хай народ больш п‘ець, абы сядзеў ціха!

**Ня маюць чаго варочацца да хаты!** Польскія газэты падаюць характэрную вестку, што жаўнеры, радзіўшыяся ў 1903 годзе, якіх надовячы пазвальнялі з войска, ня хочуць ехаць да хаты, бо... ня маюць чаго ехаць і баяцца голаду. Яны просяць дазволіць ім далей астацца на службе, дзе як-ніяк маюць забясьпечаную страху над галавой і харчы. Сярод іх—палякі і беларусы.

Дык вось, да чаго „дагаспадарылася“ наша вёска: у яе баяцца вярнуцца яе родныя сыны, для якіх там няма ні зямлі, ні працы!

**Шпіёнскі працэс у Вільні.** 31 сьнежня Акружны Суд у Вільні вынес прысуд у справе 19 асоб, абвінавачаных у шпіёнскай дзеяльнасьці на карысьць ССРР.

7 з іх прызнаны вінаватымі і прысуджаны:

## Куток маладых.

### Думкі.

Сьветлая, месячная ноч... Дзесь з-за чорных, няпрыветных комінаў і контураў гігантычных дамоў усплыў месяц. Яго млявае сьвятло, як палітурай, абліло лісьцё галін, зьвісшых над маім вакном.. З неба зірнулі вечна-халодныя зоры...

Ня сьпіцца, такою ночкай у моладасьці. Думкі, лятуценьні, надзеі й трывогі напаўняюць маладую істоту. Марыцца... думаецца...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я раскрыў вакно й залюбаваўся...

Знекуль данасілася скрыпка, а над галавой, на другім паверсе хтось пяяў... Відаць, работнік. Бо мэлёдыя—поўная нейкага жалю, смутку над разьбітым жыцьцём, поўная тугі й крыўды...

Усё сваё жыцьцё ад малых гадоў ён рабіў у гэных гігантычных дамох з комінамі... Усе свае маладыя дні ён правёў у душным заводзе між дыму й смуроду... Яму казалі, што на тым сьвеце ён знойдзе сваё шчасьце... А самі—вечна балююць і на гэтым сьвеце, ды вось цяпер, абняўшыся з панямі, танцуюць там недзе... Льюцца чароўныя гукі скрыпкі... Даносіцца вальс...

Не! не! ён ня верыць у другое жыцьцё! Ён толькі з смуткам успамінае сваю моладасьць, свае разьбітыя дні...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Думкі аб жыцьці распалілі мой розум Я думаў аб глыбокіх ідэях, аб сэньсе жыцьця...

Няўжо-ж жыцьцё—гэта панаваньне зла й няпраўды? Няўжо-ж не аднолькавае права ўсіх — жыць?!

Грудзі ўздымаліся, поўныя юнацкага пылу й запалу...

Так заўсёда ў моладасьці...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На гары хтось пяяў:

Эх ты доля, мая доля,
Доля, долюшка мая....

Ня сьпіцца камусь... Хтось сумуе аб разьбітых днёх..., Толькі смутак у яго й астаўся.... А баявыя песьні запяе яго сын,—маладое пакаленьне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У непарушнай вышыні мігцелі халодныя зоры, сымбалі волі й прастору....

**Малады.**

Геня Дэйчман—на 4 гады катаржнае турмы, Рубінштэйн—на 6 гадоў таго-ж; Клейф — на 3 гады турмы; Мінков — на 3 гады, але з залічэньнем 1 году і 9 месяц. ужо адседжаных; Зайдман — на 2 гады турмы. Соня Дукшт і Бродскі—на 2 і на 3 гады катаржнае турмы.

3 з абвінавачаных уцяклі ад суду, а рэшта—апраўданы.

**Камуністычныя надпісы.** Як піша „Kur. Wil.“, надовячы на Партовай вуліцы ў Вільні былі вывешаны транспаранты з надпісамі, заклікаўшыя да барацьбы з польскім урадам. Транспаранты вывешаны камуністамі і зьняты паліцыяй, якая быццам-то напала на сьлед вінавайцаў.

## Наш пратэст.

Кожны з нас ведае мэты польскіх нацыяналістаў у адносінах да т. з. „Крэсаў Усходніх“, ці Заходняй Беларусі. І ўспамінаць аб іх ня прыходзіцца. Трэба толькі сказаць, што сацыяльны і нацыянальны рух, які ўскалыхнуў народныя масы, ужо ніхто ня стрымае, і масавыя арышты, катаваньні, асадніцтва, ігра ў школы й „językowe ustawy“ толькі больш уздымае гэты рух, больш узварушвае масы. Яшчэ болей: гэтыя масы маюць ідэйную інтэлігенцыю, якая чэсна спаўняе свой абавязак, вядучы іх да вызваленьня.

Ня гледзячы на арышты, памяншаючыя гэтую інтэлігенцыю, яна папаўняецца новымі й новымі сіламі маладых змагароў—гадунцоў роднае школы. Але й тут польскія нацыяналісты робяць усе захады, каб гэтыя яшчэ не загартаваныя сілы здушыць, тасуючы ўсялякія способы, дзе хітрыкі, а дзе і яўны гвалт. Няраз гаварылася на страніцах беларускіх выданьняў аб тым „горшым з горшых“ палажэньні бел. вуч. моладзі. Але палажэньне гэтае з кожным днён б‘е нас што-раз, то горш з усіх бакоў.

Беларуская вучашчаяся моладзь—пазбаўлена вышэйшае адукацыі ў межах Польшчы — у той час, як другія гаспадарствы наш атэстат прызнаюць (С.С.Р.Р. Чэхія, Бэльгія, Францыя, Італія, Нямеччына). Нас выціскаюць абсалютна зусюль, лічучы ўсякую праяву арганізаванага вучнёўскага жыцьця „подозрительной“, выклікаючы нас у дэфензыву, абзываючы „бандытамі“, комуністамі, б‘ючы (кал. Янэль, Бабровіч), арыштоўваючы і т. д.

Але мала таго. Найважней—гэта тое, што ў вучнёўскую грамаду пускаюць некалькі „жывёлінак“, якія, нюхаючы ўсюды, за некалькі польскіх злотых перадаюць усё ў дэфэнзыву, і імя якім — „правакатарчыкі“. Даносячы ў дэфэнзыву ўсё, што дзеецца ў гімназіі, інфармуючы аб больш сьвядомых вучнях, — яны гэтым палягчаюць ворагам нашым нішчэньне беларускага руху. І, бязумоўна, не сягоньня, дык заўтра, з гэтых кадраў будучых змагароў будуць вылаўліваць лепшыя сілы—калі ня простым способам, то правакацыяй...

### Мы пратэстуем проці гэтага!

Мы гэта аддаем на грамадзкі суд!..

Мы сьмела ўсім заяўляем, што мы—жывая, ідэйная моладзь, мы выхаджэнцы з працоўнага места й

вёскі, мы працоўная моладзь,—ня здрадзім свайго народу і ў будучыні будзем змагацца за яго сацыяльныя й нацыянальныя правы.

Мы пратэстуем проці тых спосабаў і мераў, якімі адрываюць нас ад школьнае лавы, ня даўшы магчымасьці скончыць сярэднюю адукацыю!..

**Але моладзь ідэйная не баіцца турмы, і нас не задушаць гэтымі спосабамі!** Імёны-ж „правакатарчыкаў“ не сягоньня, дык заўтра, запішуцца чорнымі літарамі ў гісторыі моладзі...

Мы пратэстуем!

Пачуйце наш пратэст!

**Вучань-беларус.**

# Карэспандэнцыі.

## „Горкае жыцьцё“.

(З падарожжы па Дзісеншчыне).

Тартак Баброўшчына—Празароцкае гміны. Праўдзівы сьнежань з сьнегам і марозамі да 10°.

Стаяць некалькі дзесяткаў фурманак. Конікі худыя, малыя, — некаторыя ледзь трымаюцца на нагах. Снасьць—не пяром пісаць, ня ў казцы казаць,—адны аборыны, гужкі. Палова гаспадароў гэтых „выездаў“ у лапцёх, у падзёртых кажухах і сьвітках. Аказваецца, гэта вёска Кульгаі, „нанятая“ вязьці дошкі да гміны. А ад Кульгаёў да Баброўшчыны 20 в. Проста насьмешка: як-бы каля тартака няма вёсак, якім да гміны было-б толькі 12 — 15 в. Ну, але-ж час ня заяц не ўцячэ, а мужык ня быдла — усё зьнясе! Не вазіць-жа дошак багацеям—калі на гэтае ёсьць „сьверхкамплектная бедната в. Кульгаёў.

Бадзёрна лётае заступнік войта, стараючыся як мага больш наладаваць дошак. Вось, з фурманкай старык 70 г., худоба ледзь на нагах, а „начальнік“ кажа ладаваць больш.

„Не, панок, выбачай, кажа старына, трэба памятаць, што і я сам мушу ехаць, бо мае ногі — ня вытрымаюць, а дзеля пары дашок яшчэ ня хочацца паміраць“.

„Начальства“, хаця і свой чалавек, але ўжо заражанае маніяй улады, строга глянула на старыка, але змоўкла.

Падыходжу да аднаго з гэтых „багацеяў“. Разгаварыліся. Жальба на жыцьцё бесканечная.

„Паглядзіце—апавядае—на каня, на хамут, які з таго-сяго змайстраваў сам, на ўсю збрую, на гэтыя санкі, якія пазвязаны аборынкамі,—ну, колькі я магу наладаваць на гэтую худобу“?!

Пачалася цэлая літанія пра жыцьцё вёскі Кульгаёў. Жудаснасьцяй, сумам, горам бязьмерным нясе ад гэтых апавяданьняў.

„А каб-жа вы ўбачылі і спрабавалі нашага хлеба, які мы ядзім, дык пэўна-б знудзіліся. І так нас ужо зусім агалацілі, а вы, паночкі,—зьвярнуўся селянін да „начальства“,—ужо дакапчываеце нас“.

Я ня мог больш слухаць гэтае драмы жыцьця нашага сярмяжнага люду, бо трэба мець замест сэрца камень, каб бяз сьлёз слухаць гэтыя апавяданьні.

Як малатком, білі ў мозг словы селяніна:

„Ня маю слоў, каб расказаць нашае горкае жыцьцё“. Горкая, жудасная, сумная праўда, што слоў ня знойдзецца, каб апісаць жыцьцё гэтае вёскі. А гэтакіх вёсак—ня мала. **Зязюля**

## „Нашае начальства“.

(Скідэльская гміна, Горадзенскі п.).

Чытаючы часта ў нашай беларускай газэце аб розных выпадках і крыўдах у іншых паветах ды гмінах, зьдіўляешся, чаму гэта ў нас усё так „добра, ціха“, „як у Бога за пазухай“. Ці гэта, што тут народ трохі інакшы — спакайнейшы, ці можа начальства ня вельмі намі цікавіцца, як наагул такой жывёлінай, на якую мала зварочваюць увагі. А вось мы далей убачым, што нашае за начальства, дый з якімі галавамі?

Ня ведаю, хто,—толькі хтосьці ўздумаў, на чале з магістратам мястэчка Скідэль, адбудаваць там „патрабілаўку“. Справа ня дрэнная, магістрата, ці там каго іншага, можна пахваліць за яго ініцыятыву. Казана—зроблена. Усё абмяркована, як мае быць: плян, дзе ставіць—якую; усё, як сьлед. Толькі пад канец давялося наткнуцца на адну прыкрасьць: дзе ўзяць грошы на адбудову? Сваіх шкада, дый мо' няма; Міністэрства Скарбу бадай ці прыме пад увагу гэтую справу, бо й там грошы не валяюцца,—што-ж рабіць? Паклікалі сэймік на параду. Вось тут-жа і выявілася ўся ўзваротнасьць міністэрскіх галоў „нашага начальства“. Дадумаліся:

Гэй, панове, будуць грошы,
Бо жыве яшчэ мужык!
Вось, дзе выхад нам харошы,—
Вось падмога... ён прывык!..

Гэта-ж так проста і так лёгка зрабіць. Наладжыць свой пабор на мужыка—і баста! А што датычыць таго, як гэта выпаўніць, дык над такім глупствам „нашае начальства“ доўга не затрымвалася. Аўторкам заўсёды ў нас торг. Народ з усіх бакоў, як плаў, плыве да Скідля, дык чаго-ж ляпей? Раптам у канцы кожнае вуліцы апыніліся „татарскія баскакі“. На першы раз дык надта ўжо неяк здавалася дзіка і незразумела. Пад'ехаў да мосту: Стой!—Чаго табе?—Давай 20 грошай... — За што - якіх? Мы, і дарожныя і розныя маставыя ды іншыя падаткі заплацілі?—Пабор капытковы—адказвае са сьмехам „баскак“. Ну барджэй, барджэй, чаго ўталопіўся... вось і квіт маеш. Лезе бедны мужычок у кішэнь па грошы — не хапае пяці грошай.—Ня можна пусьціць, пазыч у каго, як сабе хочаш, калі няма, дык можаш і назад вярнуцца. А тут ужо цэлы рад фурманак і горба зьдзіўленых людзей. Жджэ мужык, стаўшы з боку, ці не натрапіць дзе на знаёмага, пазычыць 5 грошай, каб праехаць у мястэчка. А хто мае чым заплаціць, дык атрымвае квіт: „20 gr. magistrat m. Skidel“.

Хітра дадумалася „нашае начальства“—трэба аддаць справядлівасьць. Але ўжо пара, здаецца, і закончыць гэту „царамонію“, бо бяз малага год, як яна цягнецца. Не адну за гэты час „патрабілаўку“ можна было-б адбудаваць на тыя крывавыя грошы мужыка, што кожным аўторкам перападаюць у рукі „нашага начальства“. Відаць, вельмі падабаецца гэткі просты і па просту нявіннанаіўны спосаб абаламучваньня.

Цяпер дык мы ўжо прывыклі, як быццам, так і трэ! А што йначай рабіць? Каму пажаліцца? Адна парада: чакаць, пакуль адбудуюць „патрабілаўку“, а яна чамусь вельмі ўжо марудна строіцца на нашае нуднае шчасьцьце.

Паночкі! хутчэй канчайце гэту работу, бо, каб вы ведалі, надта цяжка прыходзяцца нам гэтыя 20 грошы. **М. Навабранец.**

# З Радавае Беларусі.

## Сьвяткаваньне 400-леьцьця беларускага друку.

Толькі ў самым канцы 1925 году Радавая Беларусь адсьвяткавала Скарынінскі юбілей, які ў Зах. Беларусі сьвяткаваўся 25 марца 1925 г.

Сьвяткаваньне ў Рад. Беларусі адбывалася паводле гэтае праграмы:

**I. У Менску:**

а) Пачынаючы з 20 сьнежня — кампанія ў друку.

б) 29 сьнежня — масавыя сходы працаўнікоў друку і асьветы ў пам. Цэнтральнага Дому Асьветы, з дакладамі і літэратурна-мастацкімі аддзяленьнямі.

в) 29.XII — пастаноўка бюсту **Скарыны** ў памяшканьні Інбелкульту.

г) 30.XII—урачыстае пасяджэньне ў тэатры з удзелам прадстаўнікоў Інбелкульту, партыйных, савецкіх і прафэсыянальных устаноў і Унівэрсытэту з адпаведнымі дакладамі і літаратурна-мастацкім аддзяленьнем.

д) З 30.XII па 7 студзеня—выстаўка-беларускага друку ў Дзярж. Бібліатэцы.

е) З 30. XII — выстаўкі кнігі і беларускага друку ў палітасьветных установах (бібліатэках, хатах-чытальнях і нардамох).

ж) 29-30.XII—даклады па школах.

**II. У акругох:**

а) 30.XII—урачыстыя пасяджэньні з удзелам прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і прафэсыянальных устаноў.

б) 29 30.XII—даклады па школах і палітасьветных установах.

в) 30-XII—7-I—выстаўкі кніг і беларускага друку ў бібліатэках.

## Маладнякоўскія кніжкі.

У апошнія часы вышлі з друку наступныя маладнякоўскія кніжкі: П. Трус (вершы), К. Чорны —„Срэбра жыцьця“ (апавяданьні), А. Дудар—„Сонечнымі сьцежкамі“ (вершы), А. Гурло — „Спатканьні“ (вершы), А. Александровіч—„Сутарэньне“ (апавяданьні), Крапіва (апавяданьні—сатыры) і Ул. Дубоўка—„Credo“ (вершы). Усе гэтыя кніжкі можна набыць у кнігарнях—БДВ.

Здадзены ў друк і ў хуткім часе выйдуць гэткія маладнякоўскія кніжкі (выданьня ЦБ „Маладняка“): М. Чарот—„Карчма“ (паэма), Ан. Вольны—„Чарнакудрая радасьць“ (тры паэмы), А. Дудар—„Шанхайскі шоўк“ (паэма), Слуцкія песьняры (П. Шукайла, Сукалк, Атава, Відук і Чырвань); Янка Бобрык, А Звонак і Я. Туміловіч — „Пунсовае раньне“ (вершы), Бандарына, Вішнеўская, Е. Пфляўмбаўм (вершы), Я. Пушча—„Vita“ (вершы) і О. Уайльд—„Баляда Рэдынгскай турмы“ (пераклад з ангельскай мовы Дуброўскага).

Апрача гэтых, здаецца ў друк цэлы шэраг новых кніжак, у тым ліку пераклад з грэцкае мовы—„Антыгона“—Сафокла.

## Новая беларуская п'еса.

2 сьнежня ў Магілёве, у гарадзкім тэатры імя У. Ігнатоўскага, быў пастаўлены спэктакль — справаздача працы 3-х беларускіх студыяў: драматычнай, харавой і музычнай. Ставілі драму В. Гарбацэвіча **„Дукорскія Муры“**.

Драма гэта дае яскравы малюнак недалёкага жудаснага мінулага—панаваньня на Чэрвеншчыне пана Ашторпа, вядомага сібарыта і ката, імем якога на сотню вёрст навакол Дукоры кабеты пужалі сваіх дзяцей. Драма можа быць названа музычнаю: у ёй 30 нумароў сьпеваў, музыкі і скокаў.

# Юрыдычныя парады.

### Падпішчыку № 1863.

*Запытаньне*: Падчас нямецкай акупацыі намі быў з'арганізаваны культурна-прасьветны гурток, у склад каторага ўвайшло каля ста сяброў.

На сяброўскія складкі быў куплены кінематаграфічны апарат.

У 1920—21—22 гадох шмат было перашкод і ўсё было спынена, а апарат знаходзіўся ў аднаго з сяброў гуртка, адкуль быў сканфіскаваны камэндантам паліцыі па загаду Нясьвіжскага старосты, у каторага быццам і цяпер знаходзіцца.

Ці могуць сябры гуртка зыскаць апарат, або прасіць, каб вярнулі за яго грошы?

*Адказ*: Калі ваш „гурток“ меў свой статут і калі маеце пратакол паседжаньняў, дык можна было-б падаць у суд ад імя былых сяброў гуртка; калі нічога гэтага ня маеце, дык няхай той, у каторага ўзят апарат, падасьць скаргу да ваяводы копію адказу ваяводы прышліце.

### Гнідко Янку.

Вам самім распачаць суд ня радзім, а зрабіце так, каб на Вас падалі, тады лягчэй бараніцца.

### М. З.

Папрабуйце зьвярнуцца ў банк, можа згодзіцца браць раты ад кожнага за яго часьць.

### Гедровічу Вінцуку.

Зямлю могуць купіць і другія, апрача вашай вёскі.

Папрабуйце зьвярнуцца да Зямельнага Камісара.

### Пятру Дравіцыну.

1) *Запытаньне*: Мой дзядзька памер у 1915 г., аставіўшы жонку з гадаванкай. У 1923 г. дзядзіна ўзяла мяне да гадаванкі на прыймы.

Ці могуць іншыя пляменьнікі адабраць у мяне гэтую гаспадарку.

*Адказ*: Калі ў працягу 10 гадоў ніхто іншы карыстаць з зямлі ня будзе, дык адабраць ня можна.

2) *Адказ*: Можна мець права толькі на адсрочку.

### Падпішчыку.

Можна дахадзіць судом за дом і ўбыткі.

### Падпішчыку № 534.

*Запытаньне*: Нас 5 братоў у 1915 годзе выехала ў Расею, з каторых адзін з пляменьнікам вярнуўся на бацькаўшчыну.

Пляменьнік дамагаецца дзяліць зямлю папалам, г. з. паміж мной і сынам старшага брата.

Як мы павінны падзяліць зямлю, калі я маю ўпаважненьне ад братоў з Расеі, заверанае Польскім Кансульствам.

*Адказ*: Пляменьнік мае права на адну пятую частку ўсяе зямлі.

### В. Ф. Джэ...ло.

Можна спаганяць вартасьць бульбы, дзерава і за працу.

# Паштовая скрынка.

**Нашаму карэспандэнту А. ў Горадні.** Просім пісаць карэспандэнцыі не алаўком, а пяром, дый на адным баку паперы! Пашкадуйце вочы працаўнікоў Рэдакцыі і складальнікаў!

# Усячына.

## Чэрап чалавека, які жыў 100 - 200 тысяч год таму назад.

На адным з астравоў ля Аўстраліі на глыбіні 30 мэтраў знойдзены чэрап, якому вучоныя архэолёгі далі назву Родэзьненскага чэрапу. Асаблівасьцямі чэрапа зьяўляюцца—малое разьвіцьцё чарапной скрынкі і надта вялікія падброўныя дугі, якія абаранялі вочы ад удараў. Чэрап чалавека, які жыў 100-200 тысяч год таму назад, больш падобны да чэрапа горылы, чымся да чэрапа сучаснага чалавека.

## Найбольшая глыбіня мора.

Японскае судно „Маншу“, вымяраючы глыбіню Ціхага акіяну, знашло ў 200 кілёмэтрах ад Токіё глыбіню акіяну 9948 мэтраў. Дарэчы, прыпомнім, што самая высокая гара на зямлі Эвэрэст у Азіі падымаецца над узроўнем мора на 8.840 мэтраў.

## Дамы са стружак.

На будаўнічай выстаўцы, якая адбылася ўлетку г.г. у Лёндане, быў паказаны новы спосаб будаваньня дамоў з прэсаваных стружак. Стружкі і апілкі апрацоўваюцца спэцыяльнай рашчынай, якая надае драўлянай масе агнястойкасьць. Маса прэсуецца ў выглядзе тоўстых дошак. Форма гэтых дошак робіцца па жаданьню, і завод выпускае ўжо гатовыя сьцены, бэлькі, рамы і г. д. Усе часткі перанумараваны, і праца будаўнічых складаецца з таго, што яны зьбіраюць гэты дом на сталёвай раме, якая надае яму трываласьць.

Рэдактар-Выдавец: Ян Марцінеўскі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.